Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 17 красавіка 1930 г. №. 15

## Узмацняйма культурны фронт!

У меру таго, як у Савецкай Беларусі маскоўскія нацыяналісты, перамяляваныя на-чырвана, узмацняюць свой наступ на беларусаў і ўсялякімі спосабамі стараюцца запыніць магутны рост беларускае культуры, — робіцца з дня на дзень горшым і палажэньне беларускае справы пад Польшчай.

Яно і ясна: бо-ж польскі нацыяналізм мае тую-ж мэту, што і маскоўскі. Бо-ж і польскія нацыяналісты імкнуцца да поўнага зьніштажэньня беларускае нацыянальнасьці і па цёмных закутках з радасьцяй гавораць: бійма беларусаў „у чатыры рукі“, дык супольнымі сіламі хутчэй здолеем іх зьнішчыць!

Дык ня дзіва, што ў урадавых сфэрах эндэцкія ўплывы паралізуюць кожны, найменшы нават крок у кірунку здаваленьня бясспрэчна слушных дамаганьняў беларускіх масаў — ці то ў галіне культурна-асьветнае працы, ці ў іншых. Ня рухаецца з мейсца справа стварэньня беларускае вучыцельскае сэмінарыі і беларускіх вучыцельскіх курсаў, хаця навет Сойм прызначыў на гэта значныя крэдыты. Перад нашымі гімназіямі, якія пасьля дзесяцігадовае барацьбы за свой быт урэшце акрэплі і здабылі для сябе (хоць і ня ўсе яшчэ!) урадавыя правы, —паўстае новая пагроза: пагроза няпрызнаньня ўладамі правоў старых, заслужоных беларускіх пэдагогаў на выкладаньне ў школах, што раўназначна з ліквідацыяй нашых гімназіяў. А справа звальненьня з турмы грамадаўскіх паслоў, якая — пасьля апраўдальных прыгавораў над пасламі-беларускімі Шапелем і Сабалеўскім ды над нямецкім паслом Уліцам, пасьля на-сьмех малога прысуду паслу Галавачу, арыштаванаму разам з грамадаўцамі і абвінавачанаму ў тых-жа, што і яны, „праступках“, — становіцца абсалютна няўхільнай, — справа гэтая ўсё стаіць на мёртвым пункце, як цяжкі дакор сумленьню польскае дэмакратыі...

Прычыны гэтага для нас зусім зразумелыя. І, разумеючы іх, мы тым балей мусім арганізоўваць свае сілы дзеля самаабароны.

Мы мусім выяўляць усімі спосабамі сваю здольнасьць да жыцьця, гуртуючы ўсе нашы жывыя, здольныя да чыннае працы сілы пры існуючых грамадзкіх культурна-асьветных арганізацыях і ўстановах (бо партыяў палітычных, якія маглі-б пакіраваць масамі ў іх змаганьні за свой нацыянальны быт, у нас — пасьля разгрому Грамады — няма!), творачы адумысныя новыя арганізацыі і ўстановы, разьвіваючы нанова акцыю школьных дэклярацыяў, зусім закіненую Таварыствам Беларускае Школы ад часу апанаваньня яе ведамымі палітыканамі. Мы мусім падаваць свой голас усюды і пры кожнай нагодзе, калі можна перад усім сьветам паказаць, што жыве Беларускі Народ і хоча жыць!

„Барацьба паняволенага народу за свой нацыянальны быт ня можа абмежыцца адной толькі нэгацыяй, гэта знача — запярэчаньнем у адносінах да чужацкае ўлады: яно мусіць быць адначасна творчым, мусіць адначасна тварыць непарушныя, нязьнішчальныя культурныя факты, на якіх грунтуецца самы нацыянальны быт народу. І наш народ, змагаючыся за сваю лепшую будучыню, ня можа абмежыцца выключна палітыкай, а мусіць будаваць яшчэ сваю нацыянальную культуру, узгадоўваць нацыянальна сьвядомую інтэлігенцыю, усьведамляць усебакова працоўныя масы. Ахвотнікаў да палітыкі ў нас хватае, мо' аж зашмат! Але да культурнае творчае працы ня толькі ахвота патрэбна, але і здольнасьць, уменьне працаваць і тварыць. Наш культурны фронт вымагае найвялікшае нашае ўвагі, найвялікшых высілкаў. І іменна на гэты фронт у цяперашнім палітычным палажэньні мусяць быць кінены нашы найлепшыя сілы.

На прысуд сьмерці мы адкажам узмоцненым жыцьцём!

## Сьмерць Алёіза Іраска.

Пасьля радаснага дня сёмага сакавіка, калі ўся чэхаславацкая рэспубліка цешылася з свайго прэзыдэнта, хваля смутку заліла ўсе сэрцы, пакрыўшы жалобаю ўсе voblікі. 12 сакавіка нараніцы памёр бацька чэхаславацкае незалежнасьці, найвялікшы чэскі пісьменьнік, А. Ірасэк. Т. Масарык і А. Ірасэк—дзьве найпапулярнейшыя ў народных масах Чэхаславаччыны асобы. 7-га сакавіка прыйшла ў Прагу вітаць Т. Масарыка ўся рэспубліка; на хаўтуры А. Іраска прыйшла таксама ўся. Цела нябошчыка спалілі ў пражскім крэматорыі 16-га сакавіка, у нядзелю, а попел адвязьлі ў роднае нябошчыкавае мястэчка, Гронов.

Значэньне і сіла А. Іраска месьціцца ў ягоным літэратурным дзеле: ягоныя повесьці і раманы—гэта біблія чэскае гісторыі. На Іраскавай літэратурнай працы выгадаваліся апошнія пакаленьні народу, Іраскава кніга ёсьць штодзённым хлебам чэскае моладзі. Цяжка знайсьці папулярнейшага ў народзе пісьменніка, чым быў нябошчык. Папулярнасьць і літэратурную працу А. Іраска можна было-б параўняць з папулярнасьцяю і працаю слаўнага ў Польшчы Г. Сенкевіча: мотывы мінуўшчыны іх моцна зьвязываюць. Але спосаб апрацаваньня матываў крыху іх розьніць: у Іраска менш „штучна-чэскага перцу“, а больш гістарычнай справядлівасьці,—у Сенкевіча „польскі перац“ перамог. Ірасэк страшэнна ўпорна і цяжка працаваў над кожнай сваей кнігай перад усім з боку гістарычнага. У Іраска не-гістарычнага амаль зусім няма.

Нашым маладым пісьменьнікам, якія цікавяцца беларускімі гістарычнымі матывамі, літэратурная спадчына Іраска можа паслужыць клясычным вучыцелем: як трэба апрацовываць гістарычныя матывы.

Ірасэк чытаецца вельмі міла і лёгка.

Прага. Фр. Грышкевіч.

## З Радавае Беларусі

### Перавыбары ў сельсаветы.

Стараючыся правясьці ў жыцьцё правакацыйную палітыку Сталіна адносна да сялянскіх масаў, якіх гвалтам пачалі заганяць у „калектыўныя гаспадаркі“, існуючыя ў дадатку толькі на паперы,—Камуністычная Партыя загадала зрабіць перавыбары Сельскіх Саветаў, каб выкарыстаць гэтыя органы самаўраду, абсадзіўшы партыйнымі людзьмі. Але—вынікі перавыбараў аказаліся зусім не па мысьлі партыі. Вось частковыя вынікі іх на 7 сакавіка с. г. паводле „Сав. Беларусі“:

У 49 сельсаветах БССР выбраны ўсяго 2,672 сябры, у тым ліку:

камуністаў . . . . . . 280 (або 10,5%)
камсамольцаў . . . . 209 (або 7,8%).

Характэрна, што ў папярэднім складзе сельсаветаў камсамольцаў было 8,3%, цяпер-жа лічба іх значна зьменшылася.

Па сацыяльнаму палажэньню выбраныя дзеляцца:

рабочых, с.-г. рабочых і батракоў . 202
сялян, звольн. ад с.-г. падатку . . 1.259
плацячых падатак без прац. дадатку 1.058
„ „ з дадаткам . . 7
саматужнікаў, служачых і інш. . . 146

Відаць, перамога сялянства не здаволіла партыю, бо перавыбары спынены, і партыя загадала адлажыць іх на пазьнейшы час, калі будзе праведзена спэцыяльная акцыя па арганізацыі „беднякоў“ і батракоў.

Сялянства на выбарах паказала, што ня хоча йсьці пад каманду чужых вёсцы элемэнтаў, прысыланых з мест дзеля правядзеньня калектывізацыі. А як адбываецца, гэная калектывізацыя, паказваюць падаваныя ніжэй вырэзкі з „Савецкае Беларусі“.

### „Усеагульнае“ аграмаджаньне.

Пададзім гутарку брыгадзіра К., які працаваў у Лёзьненскім раёне (ў Віцебшчыне). Брыгадзір не бяз гонару апавядае:

— На трэці дзень мы змаглі ахапіць калгасам 10 вёсак. Як толькі скончыліся апошнія сходы і былі абраны праўленьне і рэвізыйная камісія, мы безадкладна распачалі абагульваньне жывёлы: коняў, кароў, авечак, сьвіней, корму, насеньня, інвэнтару, хлявоў і жыльлёвых памяшканьняў. Наогул **абагульвалі ўсё,—радуецца брыгадзір.**

— Праўда працягвае ён, — была невялікая затрымка. Калі справа дайшла да кароў, **бедняікі паднялі вой:**

— Не дамо кароў да вясны. Няма куды іх ставіць. Не дамо!

Але мы трымаліся моцна... Ізноў сходы, ізноў склікаем беднату і **наша ўзяло! — каровы і жыльлёвыя памяшканьні былі абагулены!...**

Што-ж у выніку гэткай „перамогі“ атрымалася? На заўтра з 298 двароў, якія запісаліся ў калгас, **90 аднакароўнікаў падалі заявы аб выхадзе з калгасу па „прычыне нязгоды“.** І зараз беднякі за сваёй нормай—**паўлітра малака ў дзень—праходзяць некальні вёрст у бліжэйшыя вёскі.** („Сав. Бел.“ № 57).

### Гвалт і прынука.

У тым-жа нумары „Сав. Бел.“ у карэспандэнцыі з Бабруйшчыны, з Слуцкага раёну, чытаем, як праводзіла тамака калектывізацыю работніцкая брыгада, прысланая з Менску:

„На сходзе, які праводзілі **члены брыгады**, замест таго, каб добра растлумачыць сэнс калектывізацыі, яны пачалі кожнага беднага выклікаць па сьпісу і ставіць пытаньні: „ці пойдзеш у калгас“. Калі некаторыя беднякі адказвалі, што яшчэ сёньня не запішуцца ў калгас, дык тут-жа выносілася пастанова: **выкрэсьліць такіх беднякоў са сьпісаў беднаты, абкласьці індывідуальна.** Для таго, каб падмацаваць сваё галавацяпства, яны прымушалі даваць падпіску аб згодзе з такой „пастановай“. Беднякі запыталіся: што будзе з тымі беднякамі, якія ня пойдуць у калгас? Атрымлівалі адказ: **„вышлюць у Салаўкі“.**

„Каб не адстаць ад сваіх „таварышоў“, каморнік у сваім выказваньні, заявіў сялянам: „заўтра пачынаем мераць зямлю і вось так, хто сёньня не запішацца ў калгас, **зямлі не дамо, а пачнем высяляць хто-б ні быў, бядняк ці серадняк**“. Бедната і серадняікі ўрэшце пачалі на сходзе запісвацца ў калгас, але калі падыйшла справа да абагульваньня рабочай жывёлы, сельск. гаспадарчага інвэнтару, **дык большая частка** беднякоў і сераднякоў ад гэтага адмовілася.

„У выніку гэтага калгас разваліваецца; не абагулены інвэнтар, рабочая жывёла, ня створаны насенныя **фонды**“.

А вось—вынікі сталінаўскае правакацыі, узятыя намі з аднаго толькі нумару „Сав. Бел.“ (№ 64 з 18 сакав.):

### Падпал калгасу.

18 сакавіка а 5-й гадзіне падпалены калгас „Новы Шлях“ у Бабруйскім раёне. Падпалам зьнішчаны будынкі з абагуленай маемасьцю і насеньнем.

У агні загінула 12 кароў, 3 коні, сьвіньні і авечкі.

### Падпал калгасных гумнаў у Тураве.

Уначы з 12 на 13 сакавіка ў мястэчку Тураве на Мазыршчыне выбухнуў пажар. Пажар пачаўся з гумна сэкрэтара Тураўскага калгасу т. Штукара. Згарэла тры гумны, 2 кані, 3 каровы.

У Тураўскім калгасе 500 двароў. Трэба ахаваць Палесьсе ад пажараў, ад злачыннай рукі клясавага ворага, бо ён ня сьпіць.

Пра гэта сьведчаць хістаньні ўнутры калгасаў Тураўскага раёну і **хваля пажараў (Капаткевічы, Дварэц, Тураў).**

Трэба памятаць, што пажар пачаўся з будынка **актывіста**, сэкрэтара калгасу.

### Яшчэ адна ахвяра кулацкага тэрору.

Прэзыдыум Капаткевіцкага раённага выканаўчага камітэту паведамляе аб забойстве гра-

Адначасна пачаліся ў радзе буйных прамысловых цэнтраў, як у Шанхаі ды інш., хваляваньні сярод работнікаў і студэнтаў, скіраваныя, як можна думаць, так сама проці Нанкінскага ўраду.

З усяго гэтага відаць, якую страшэнна цяжкую хвіліну іначў перажывае ня толькі Нанкінскі ўрад, але і ўвесь Кітай.

## Кароткія навіны.

☸ Вялікую сэнсацыю зрабіла ў польскіх і нямецкіх колах Сілезіі апраўданьне польскім апэляцыйным судом у Катавіцах у галоснай справе ведамага павадыра нямецкага аб'яднаньня на польскім Шлёнску, пасла шлёнскага сойму, Улітца. Як ведама, сам польскі міністар замежных спраў Залескі — яшчэ да судовага прыгавору ў прагрымеўшай гутарцы з міністрам Штрэзэманам, у часе сэсіі рады Лігі Нацыяў у Люгано два гады назад — публічна кляйміў, як злачынцу, д-ра Улітца, якога ўсё нямецкае насяленьне Сілезіі выбрала, як лепшага свайго грамадзяніна, старшынёй сваей нацыянальнай арганізацыі. Цяпер суд—польскі-ж суд, сьцьвярдзіў нявіноўнасьць падсуднага, а тым самым і беспадстаўнасьць закідаў польскага міністра.

☸ Сябра англійскай работніцкай партыі дэпутат Сойму палкоўнік Малён, блізкі асабісты прыяцель міністра замежных спраў Гэндэрсона, прыехаў у Польшчу — „на рэвізію" — цікавячыся палажэньнем справы нацыянальных меншасьцяў. Польская прэса піша, што дэп. Малён цікавіцца галоўным чынам палажэньнем украінцаў у Галіччыне ў сувязі з запросам (інтэрпэляцыяй), якім ён сам падаў у англійскі парлямант. Інтэрпэляцыя датычыць пытаньня, ці выпаўняе Польшча прынятыя на сябе абавязкі аховы правоў нацыянальных меншасьцяў?

Пасол Малён сьпярша прыехаў у Польскую Сілезію, дзе цікавіўся справай нямецкай меншасьці, пасьля прыбыў у Львоў, дзе проста зьвярнуўся да павадыроў „Ундо" (аб'яднаньне ўсіх украінскіх партыяў, за выняткам „камунізуючых" і „полёнофільскіх"). Польская прэса падчырківае, што дэп. Малён нікому з уладаў не зрабіў ніякіх афіцыяльных візытаў...

З Львова „рэвізор" вярнуўся ў Катавіцы, дзе слухаў судавую расправу над ведамым павадыром нямецкай арганізацыі ў Польшчы „Фольксбунду".

Польская прэса, асабліва „Кур. Поранны", з абурэньнем сьцьвярджае, што англійскі дэпутат дазволіў сабе нячуванае ўмяшаньне ў унутраныя справы Польшчы... Бо-ж ён у гутарцы з нямецкім журналістам заявіў, што ўбачыў у Польшчы рад вельмі хвароблівых зьявішчаў, якія трэбуюць пільнага і ўважлівага лячэньня... Далей дэп. Малён заявіў, што трактат аб правах меншасьцяў павінен спаўняцца, што работніцкая партыя Англіі будзе пільна сачыць за гэтым, а дзеля таго яна падтрымае прапазыцыю аб стварэньні ў Лізе Нацыяў спэцыяльнага камітэту да спраў меншасьцяў.

Як ведама, прапазыцыя аб стварэньні такога камітэту была зроблена ў Радзе Лігі яшчэ нябошчыкам Штрэзэманам і дэлегатам Канады п. Дундурандам, але неяк прыхована ў Лізе.

☸ У Польшчы наглядаецца далейшы ўпадак курсу радавага чырвонца, які дайшоў ужо да 10 з паловай злотых—замест 45.

☸ Маскоўскія карэспандэнты нямецкіх газэтаў сьцьвярджаюць, што „адбой" Сталіна — адмова яго ад баявой задачы „калгаснай палітыкі" выкліканы хваляваньнем у чырвонай арміі. Жаўнэры чырвонай арміі, сярод якіх шмат сыноў і братоў вясковых „кулакоў", залішне часта пачалі адмаўляцца страляць у бунтуючых проці калгаснага прымусу і прыгону сялян.

☸ Усесаюзны Зьезд Камун, Партыі назначаны Цэнтральным Камітэтам на 15 чэрвеня г. г. Сталін вельмі настайваў, каб зьезд адлажыць на восень, але большасьцю галасоў быў пабіты. Наагул пішуць з Масквы, што палажэньне Сталіна неяк пачало хістацца. Правая апазыцыя адкрыта высоўвае на яго месца генаральнага сэкрэтара кам. партыі Бухарына. Але—ці ўдасца так лёгка зваліць Сталіна,—вялікае пытаньне.

☸ Англійская прэса сьцьвярджае, што Савецкая Расея зьяўляецца цяпер першай у сьвеце дзяржавай па выбару ваенных труцячых газаў і наагул па падрыхтоўцы хімічнай вайны. У СССР працуе найбольш заводаў, выпрабляючых ядавітыя газы. Савецкі паветраны флёт — дзеля кіданьня газавых бомбаў—налічвае 900 самалётаў.

☸ Выкрыта ў Бэрліне чаргова новая арганізацыя камуністаў, якая займалася агітацыяй у арміі і флёце. Уся нямецкая прэса ўзбурана гэтым фактам і вінаваціць у гэтым радавы ўрад. Адна з газэтаў піша, што кіраўнікі гэтай праступнай працы знаходзяцца ў радавым пасольстве, а на чале іх стаіць быццам сама жонка пасла Крэстінскаго. Газэты дзівуюцца з цярплівасьці нямецкага ўраду, які яшчэ падтрымлівае „прыязныя адносіны" з радавым урадам, хаця ведае, што радавая ўлада ўсьцяж куе ў Нямеччыне аружжа дзеля камуністычнага перавароту. Газэта „Дэр Мітаг" піша, што бэрлінскае пасольства зусім не зьяўляецца органам, які працуе дзеля ўзмацаваньня прыязных адносінаў паміж абодвума краямі, але—наадварот—**дзеля ўзрыву і зьніштажэньня нямецкай дзяржавы**"...

Шмат органаў прэсы заклікаюць нямецкі ўрад да рашучага перагляду пытаньня аб захаваньні зносінаў з радавым урадам.

☸ 9-га красавіка прэзыдэнтам Латвіі выбраны кандыдат **сялянскага саюзу** віцэ-старшыня Сойму і Судовай Палаты Альбэрт Квесіс. Да вайны ён быў выдатным адвакатам у Мітаве.

☸ Усю Эстонію ўсхваляваў замах на аднаго з чаловых эстонскіх генэралаў Уньта. Уся прэса лічыць, што замах зьяўляецца актам тэрору. На ўрачыстых хаўтурах папулярнага генэрала міністар Замежных Спраў у сваёй прамове заявіў, што забойца генэрала належыць да тэй самай групы, якая арганізавала ведамую спробу перавароту ў Эстоніі (чытай: да камуністычнай партыі). Забойца генэрала ня знойдзены. Некаторыя газэты замах гэты ставяць у сувязь з варшаўскай візытай эстонскага прэзыдэнта, якая, як думаюць у Маскве, мела мэтай ваеннае паразуменьне паміж Польшчай і Эстоніяй, падрыхтаванае якраз чаловымі кіраўнікамі эстонскага цэнтральнага штабу ген. Лайдонэрам і і ген. Уньтам. За ген. Лайдонэрам сочаць падазроныя асобы.

☸ Дыктатура трашчыць па ўсіх швах ужо навет і ў Турцыі. Проці ўраду Кэмаля-пашы, улада якога яшчэ толькі што была мацнейшай, як улада самадзяржаўнага султана, пачынаецца ў краі сільны і шырокі апазыцыйны рух. Газэты пачынаюць штораз галасьней крытыкаваць заведзеныя парадкі, а наўперад —безраднасьць ураду дыктатара ўгаліне гаспадарчага крызісу. Газэты трэбуюць, каб быў створаны новы ўрад, больш умелы і спраўны. Найбольш характэрна, што гэты ўздым грамадзкай адвагі ў турэцкім грамадзянстве выкліканы якраз чарговым завастрэньнем „рэжыму дыктатуры", бо якраз толькі ўрад Кемаля выдаў дэкрэт аб увядзеньні амаль не ваеннага палажэньня ў усходніх віляйетах Турцыі, дзе пачаліся хваляваньні на груньце цяжкага гаспадарчага крызісу, шалеючага ў краі.

☸ Афіцыяльная статыстыка амэрыканскай Фэдэрацыі Працы сьцьвярджае катастрафічны ўзрост безрабоцьця ў „шчасьлівай" багатай Амэрыцы. Афіцыяльная лічба безработных у мінулым лютым мес. дайшла да 3 міл. 700 тысячаў, ці ўжо звыш чацьвертай часткі ўсіх работнікаў у краі ня мае працы. Старшыня Фэдэрацыі Працы Грын, які падае гэтыя лічбы, заявіў, што калі ня будуць прыняты меры, каб спыніць гэты катастрафічны ўзрост безрабоцьця, дык у Амэрыцы неадхільна выбухне сацыяльная рэвалюцыя.

# Хроніка.

× **Наступны нумар „Напераду" — з прычыны сьвяточнага перарыву ў працы — выйдзе цераз два тыдні, 30 красавіка.**

× **Выбары ў Сьвянцянскім вокрузе скасаваны.** 14 красавіка Найвышэйшы Суд прызнаў няважнымі выбары ў Сойм у Сьвянцянскім вокрузе. На гэтай падставе ўтрацілі свае мандаты беларускія паслы (хадэкі) Альбін Стэповіч, Паўла Каруза і Канстантын Юхневіч.

На калі будуць вызначаны новыя выбары, няма ведама.

Выбары да Сойму ў Наваградчыне прызнаны правільны, а прысуд аб выбарах у Сэнат будзе абвешчаны пазьней.

× **Банкруцтва ў Лідчыне сьпіску № 18.** Як ведама, ў 1922 годзе, калі першы раз на выбарах у польскі Сойм аб'ядналіся ўсе „нацыянальныя меншасьці" Польшчы і стварылі блёк — ведамую „шаснастку", — дык ад беларусаў увайшлі ў гэны блёк усе палітычныя групы, апрача так званых дэфэнзыўных. На апошніх выбарах 1928 году блёк „нац. меншасьцяў" аднавіўся, але ўжо ў зусім іншым складзе. Беларускае грамадзянства аказалася разьбітым і ішло на выбары расьцярушанае, ня маючы свайго адзінага агульнага цэнтру. Ініцыятарамі ўзнаўленьня блёку былі прадстаўнікі жыдоўскае буржуазіі, якія зьвярнуліся да найбліжэйшых ім па ідэалёгіі беларускіх груп—хадэкаў і сельсаюзьнікаў, якія заўсёды йдуць разам. Але аказалася, што клерыкальна-сельсаюзьніцкія ўплывы ў беларускіх масах л'шне слабыя, каб пры перавыбарах, якія адбудуцца ў Лідзкім выбарным вокрузе 25 мая, была якая-колечы надзея на праход у Сойм кандыдатаў сьпіску блёку (№ 18), — тым балей, што і самыя гэныя кандыдаты (Більдзюкевіч, Пазьняк, Яковіч) з беларускага пункту гледжаньня зусім не адпаведныя на адказнае становішча пасла. Маючы інфармацыі аб палажэньні на мясцох, жыдоўскае прадстаўніцтва ў блёку пастанавіла адмовіцца ад саюзу з беларускімі клерыкаламі і сельсаюзьнікамі і зьняць з супольнага сьпіску № 18 свайго кандыдата, адваката Чэрніхава. Ясна, што з гэтым зьвязана і адмова ад фінансаваньня выбарнае акцыі ў Лідзкім вокрузе, дык палажэньне „восемнасткі" робіцца ўжо зусім безнадзейным.

Такім чынам адзіным паважным сьпіскам, за які беларускія масы павінны выключна галасаваць, каб не расьцярушыць сваіх галасоў і ня даць пабіць сябе польскімі партыямі, — астаецца сьпісак № 41 з д-рам Янам Станкевічам, Флегонтам Валынцам і Юстынам Мурашкам на чале.

× **Каго праводзіць „Stronnictwo Chłopskie" у Лідчыне?** Польская часопісь „Kur. Wil." апавядае аб няўдачах агітатараў польскае-ж партыі „Stronnictwo Chłopskie" ў часе мітынгу ў Валожыне. Агітатары гэтае партыі, Савіцкі і Матэцкі, агітавалі тамака за тое, каб народ галасаваў за іхні (польскі) сьпісак. Даставалася ад іх і беларусам. Дык урэшце, як ні цярплівы наш селянін, мера цярплівасьці перапоўнілася. З таўпы ў агітатараў пачалі ляцець яйкі і інш. Калі адно яйко папала Савіцкаму ў галаву і заліло яму твар, той выхапіў рэвальвэр (такім паліцыя пэўне-ж дае дазвол насіць аружжа!) і пачаў страляць. На шчасьце, ні ў кога не папаў, а людзі адабралі ў яго рэвальвэр і аддалі паліцыі, якая на стрэлы прыбыла на веча.

„Kur. Wil." падае цікаўныя інфармацыі аб гэным-жа Матэцкім, які быццам быў калісь бальшавіцкім камісарам у Ізі, пасьля—ў 1922 годзе—перакінуўся да польскіх Эндэкаў і агітаваў на выбарах за эндэцкі сьпісак („васьмёрку"), а як сам пасольскага мандату не дастаў, дык знайшоў для сябе новую „ідэйную" службу ў партыі „Stronnictwo Chłopskie", за якую цяпер і агітуе, падбіваючы беларускіх сялян галасаваць за польскіх кандыдатаў. — Ну, ды беларусы добра ведаюць цану і паном Матэцкім, і іхнім „гаспадарам", для якіх за грошы працуюць.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што пасьля скасаваньня ў 1928 г. сьпіску № 10 той-жа Матэцкі адразу перакінуўся да „адзінкі" і агітаваў за яе!

× **Правы вучняў Віл. Бел. Гімназіі.** Міністэрства Асьветы прызнала вучням Віл. Бел. Гімназіі права на адтэрмінаваньне адбываньня ваеннае службы. Правам гэтым вучні будуць карыстацца ўжо пры пабору сёлетняга, 1930 году.

× **Чатыры працэсы б. пасла Галавача.** Віленскі акружны суд на выезднай сэсіі ў Маладэчне разглядаў чатыры палітычныя справы б. пасла Галавача, які, як ведама, быў арыштаваны аднача-сна з б. паслом Тарашкевічам і іншымі грамадаўскімі пасламі й дзеячамі. Усе гэтыя „антыпаньствовыя" справы Галавача суд разглядаў разам і, прызнаўшы Галавача вінаватым, засудзіў яго на адну супольную кару—8 месяцаў вастрогу, якую Галавачу залічылі на рахунак адбытага сьледчага арышту.

Паўтараем: на восем месяцаў, а не гадоў, як могуць падумаць тыя, хто памятае, што Тарашкевічу і іншым грамадаўцам далі па 12 гадоў катаргі, а пасьля зьменшылі да 6 гадоў...

## Чорны госьць.

Ветры, ветры дзьмуць на волі,
Завявае вёску сьнег.
Госьць нязваны ноччу з поля
Падыйшоў да шэрых стрэх.

Стаў над вёскай—і з пагрозай
Распусьціў над ёй крыло.
Цёмнай ночкаю з марозам
Заглядае праз вакно...

Хаты к вербам у трывозе
Прытуліліся—маўчаць.
— Працы! Працы!—па дарозе
Усьцяж шагі чыесь скрыпяць...

Цяжка... Тошна.... Жудка стала...
Там ратунку просіць хтось:
— Хлеба дайце! Хлеба мала!...
Душыць вёску Чорны Госьць.

„Лукішкі" 1929. **М. Машара.**

## З цыклю: Места.

Вуліцы! Вуліцы! Вуліцы!
Тыя, што давалі мне рытм..
Я хачу сягоньня рашчуліцца,
Бо ўспомніў вас, быццам міт...

Доўга вас ня бачыў замкнёны,
Доўга марыў, марыў я;
Сьніліся мне шумы і звоны,
Паводка электрычнага сьвятла...

Сягоньня быў шчасьцем абліты я,
Шчасьце—лебядзіны пух...
Бачыў вулкі, калі з паліцыяй
Шоў па бруку, скаваны ў ланцуг.

„Лукішкі" **Х. І.**

## Сонца ўсходзіць і заходзіць....

(З расейскага).

Сонца ўсходзіць і заходзіць,
А ў вастрозе ўсё цямней...
У дзень і ўночы ўсё вартуе
Вартаўнік каля дзьвярэй.
Вы, як хочаце, вартуйце,
Мне няма куды ўцякаць;
Хоць і хочацца на волю,—
Ланцугі ня ўмоч парваць!
Эх, вы путы—ланцужочкі,
Калі-ж волю ўбачу я?
Не парваць вас, не парэзаць,
Доля горкая мая!
Ды ня думай, вартаўнічы,
Што нам волі луч затух:
Прыдзе лепшы час, і будзе
Сіла наша рваць ланцуг!

**Званар.**

